# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАГА
СТУДЭНСТВА У ВІЛЬНІ.



№ 1 (7). САКАВІК. ГОД III.

1926 г.

ВІЛЬНЯ.
Друкарня Н. Левін і Сын, Нямецкая вул. 22.
1926.

# ЗЬМЕСТ.


на старонцы.

1. З народу мы... **Фр. Грышкевіч** . . . . . . . . 1
2. Вільня, 1926 . . . . . . . . . . . . . . . . . . 2
3. Эвалюцыя беларускае адраджэнскае ідэалёгіі і адбіцьцё яе ў літэратуры, **Ант. Навіна** . 4
4. Дыялектыка і лёгіка (працяг) **Ю. Плеханаў** . . 10
5. Душа народу, як падстава нацыянальнае культуры, **Шлях** . . . . . . . . . . . . . . . 13
6. З-за куліс беларуска-польскага гуртка ў Віленскім унівэрсытэце, **А. З.** . . . . . . . . . 16
7. Лебядзінае возера, **Натальля Арсеньева** . . . . 20
8. Песьня, **А. Мацейчык** . . . . . . . . . . . . 26
9. Ці доўга? верш, **Ус. Шыран** . . . . . . . . . 28
10. * * * **Пятрусь** . . . . . . . . . . . . . . . 28
11. З народнай творчасьці . . . . . . . . . . . 29
12. Хроніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

Грамадзка-навуковая і літэратурная часопісь Беларускага Студэнства.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. 12, 6.

Падпіска квартальна з перасылкай . 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . . . . 1 зл.

№ 1 (7) 1926, САКАВІК. 1926. ГОД III.



## З народу мы...

*З Народу выйшлі і ў Народ*
*Мы пойдзем поўны веры...*
*З народам пойдзем мы ўпярод,*
*Як верныя жаўнеры.*
*З Народам мы... Народ за нас...*
*Пад намі збройны коні...*
*Ах... годзі спаць!... Ісьці ўжо час!...*
*Араць трэ' родны гоні.*
*Скарэй за плуг, хто жыў і дуж*
*Дзяры дзірван палетку...*
*Нясі сьвятло у цёмну глуш,*
*Дай брату шчасьця кветку.*
*З Народам мы!... Хто-ж процiў нас,*
*Хто йдзе супроць Народу,*
*Каму прамень надзеі згас,*
*Хто жджэ няшчасьця году—*
*Ах... проч ад нас!... З Народам мы!*
*Бо дзеці мы Народу:*
*З Народам церпім мы адны*
*За Волю і Свабоду.*

*3. III. 1926.*

**Фр. Грышкевіч.**

*Вільня 1926.*

Перад маладзью кожнага народу стаіць цэлая маса заданьняў, да разьвязкі якіх, вышаўшы з пэрыяду кшталтаваньня сваей душы і розуму, у жыцьці грамадзкім яна прыступіць.

Дзеля гэтага трэба мець веду грунтоўную ў галінах тае працы, да якое кожны з вучнёўскай і студэнцкай моладзі мае нахіл, ці да якое прыгатаўляецца.

Для нас, моладзі Беларускае, патрэба гэнага грунтоўнага пазнаньня галіны веды, у якой маем працаваць, яшчэ больш канешная, бо так ці інакш прыдзецца дзяліцца ведай з роднай масай, сваім народам, каторы чакае ад нас кіраўніцтва і помачы.

Беларускі Народ у сваім гістарычным жыцьці аддавен чакае супрацоўніцтва з роднай інтэлігенцыяй. Яна-ж, на жаль, спадзяваньня Яго ў працягу многіх вякоў не спаўняла.

Карміласея ягонай працай, узрастала потам і крывёй сярмяжных сваіх малодшых братоў і за гэта ім нічога, апрача крыўды, не давала. І гэтак праходзілі вякі...

Вярхі народу адыходзілі ад роднага грунту, узмацоўвалі сваім інтэлектам чужыя гоні...

Але-ж аднак Народ чакае...

Цяпер ня маем падзелу на становыя вярхі і нізы.

Усе мы, Беларускі Народ, адна суцэльная маса, зьвязаная прыраджонымі собскімі прыметамі псыхалёгіі, мовы, этнаграфіі і душы.

Толькі-ж нішто не праходзе бязсьледна ў гісторыі. У народзе жыве свой пагляд на інтэлігенцыю, атавістычны, падсьвядомы.

Асабліва калі, незалежна ад Народу і роднае інтэлігенцыі, жыцьцё сустракае беларускую масу з чужой інтэлігенцыяй, якая душы Народу ня ў сілах паняць, а — галоўнае — ня мае да гэтага ніякае ахвоты і добрае волі.

І ў Народзе склаўся пагляд на інтэлігенцыю, як на далёкія, чужыя, ня родныя вярхі.

З гэтым мусім лічыцца.

Адносіны паміж Народам en masse і яго інтэлігенціяй — гэнае пытаньне старое, важнае і важкае ў сваіх выніках на цэлы ўклад жыцьця данага грамадзянства.

Асабліва-ж мае вагу яно для нас.

І кожны з нас, што ня ўграз у драбязу штодзенных, прыземных дасяганьняў, ня вызбыўся ідэалаў, ці іх не абмяняў на магчымасьць

ужываньня і матэрыяльных выгадаў, — на гэным пытаньні затрымацца павінен.

Але, каб разабрацца ў ім, трэба скантраляваць свой стасунак да роднае масы.

Ці яна запраўды блізкая да нашага сэрца, ці вось ня йдзем мы па дарозе сваіх папярэднікаў, што оптам і ўрозніцу гэныя масы прадавалі і здраджалі?

Толькі той запраўды не парве зьвязку з Народам, толькі той здолее закапаць пропасьць народнага недавер'я да інтэлігенцыі, хто ў сэрцы сваім будзе насіць жывое каханьне Народу.

Ён вялікі псыхолёг, што мала гаворыць, але шмат думае і заўсёды пазнае, дзе лічман і дзе золата.

Каб-жа палюбіць, трэба зразумець Народ. Гэна не адзінка, якую лёгка пазнаць, гэна асобны арганізм, са сваей собскай псыхалёгіяй, ідэаламі і імкненьнямі.

І вось пазнаньне Народу ў яго жывым жыцьці, з яго радасьцямі і бедамі, са сьветлымі і цёмнымі старанамі гэнага жыцьця, пры добрай волі ўзгадуе вялікае каханьне да Народу, і толькі тады перайсьці здолеем пропасьць, што дзеліць Народ ад інтэлігенцыі, і гэную яму станем засыпаць. Народ чакае...

А кахаючы Народ, прыняўшы глыбока да сэрца яго гора і беды, станем на той шлях, да якога кліча нас жыцьцё, што ніколі не стаіць на мейсцы, а шпарка йдзе па дарозе вызваленьня ад цемнаты і няволі ўсялякай чалавека й цэлых грамадзянств.

З жывымі мусім уперад ісьці...

Направіць крыўду, якая вякамі чынілася Народу нашаму здрадніцкай інтэлігенцыяй, што яго кідала; стацца запраўднай часткай Народу, — вось заданьні нашыя.

І толькі тады гэны маўклівы і цярплівы Вялікі Чалавек падасьць нам руку і скажа:

„Я табе, браце, веру, пакажы дарогу і вядзі мяне да лепшага новага жыцьця“.

# Эвалюцыя беларускае адраджэнскае ідэалёгіі і адбіцьцё яе у літэратуры.

(Паводле публічнае лекцыі чытанае ў Вільні 24. I. 26.)

Першыя спробы адраджэньня беларускага пісьменства прыпадаюць на самы пачатак XIX сталецьця. А першымі беларускімі пісьменьнікамі тае пары былі прадстаўнікі краёвае інтэлігенцыі, пераважна з спольшчаных шляхоцкіх колаў, часьцю — спаміж абмаскоўленых урадоўцаў і зямляўласьнікаў. I можна сьмела сказаць, што ў працягу блізу ўсяго XIX сталецьця іменна гэтыя элемэнты і твораць той скромны беларускі літэратурны прыбытак, які нам пакінула мінулае сталецьце.

Чым-жа тлумачыцца гэтае на першы пагляд дзіўное зьявішча? Як магло стацца, што якраз у тыя часы, калі йшчэ ў поўнай меры панаваў у нашай Бацькаўшчыне прыгон, прадстаўнікі пануючае клясы зацікавіліся сваімі падданымі—хлопамі і раптам пачалі пісаць для іх вершыкі ў „простай“, „мужыцкай“ мове?!...

Каб даць адказ на гэтае пытаньне, трэба глыбей паўзірацца на панаваўшыя ў нас тады сярод краёвае інтэлігенцыі настроі, трэба пазнаёміцца з духам эпохі, і тады тое, што на першы пагляд можа паказацца дзіўным, акажацца зусім натуральным і ясным.

* *
*

Пачатак XIX веку адзначаецца наплывам да нас з Захаду новых ідэй — літэратурных і палітычных. Гэта-ж той час, калі романтызм з заходняе літэратуры пачынае пранікаць і на Усход, захопліваючы ўсе больш жывыя душы, кіруючы думку да роднае мінуўшчыны, да свайго роднага „гміну“ з ягонымі павер'ямі, легендамі, фантастычнымі казкамі і апавяданьнямі, ды з такой багатай у беларусаў песьняй —багатай і з боку літэратурнага і з боку музыкальнага. Так, адзін з нашых першых песьняроў і дасьледчыкаў народнага быту і творчасьці, палітычны эмігрант 1831 году Аляксандар Рыпінскі, у выданай ім у Парыжу ў 1840 г. ў польскай мове кніжцы „Białoruś“ апавядае, што меў цэлы сшытак народных песень беларускіх, запісаных са слоў сялян, ды так гэны скарб цаніў, што ніколі з ім не расставаўся. А багаты зборнік фантастычных апавяданьняў, перапрацаваных папольску Баршчэўскім і надрукаваных у ягоным зборніку „Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach“ з 1840-ых гадоў? Урэшце— якой любоўю, якім укаханьнем усяго народнага — беларускага вее ад зборнікаў „Piosnki wieśniacze“ з тых-жа гадоў, выдаваных Янам Чачотам, які першы спрабаваў даць філёлёгічны нарыс асаблівасьцяў беларускае мовы?! Да гэтае-ж катэгорыі творчасьці трэба аднесьці і анонімныя (бо-ж аб аўтарстве іх няма дагэтуль поўнае згоды сярод дасьледчыкаў) творы: „Энэіда“ пабеларуску і „Тарас на Парнасе“, якія паказуюць бязумоўную любоў аўтараў іх да беларускае народнае мовы.

Але, побач з навінкай у літэратуры — романтызмам, які так буйна расцьвітае на Беларусі, маючы тут такого прадстаўніка, як Адам Міцкевіч, — у пачатку XIX ст. прыходзяць да нас і мо' больш важныя па свайму значэньню **палітычныя** ўплывы з Захаду — водгукі Вялікае Француская Рэвалюцыі. Прыносяць іх з сабой на сваіх штыхох легіоны Наполеона, на доўгі час стаўшагася кумірам нашай краёвай інтэлігенцыі. Воля, Роўнасьць, Брацтва людзей — гэта-ж такія парываючыя па сваей сьмеласьці ідэі, што ў затхлай атмосфэры сярэднявечных перажыткаў з панаваньнем клерыкалізму, пагарды да чалавека і да ўсякае чужое веры не маглі не раскатурхаць лепшых людзей краю. І вось у 1818 годзе ў Вільні на зьезьдзе шляхты маршалак Завіша выступае з дамаганьнем скасаваньня паншчыны, і — як гэта ні дзіўна! — сабраныя паны-прыгоншчыкі згаджаюцца з гэтай сьмелай думкай, выклікаўшай абурэньне імпэратара Аляксандра I, які — за дапушчэньне да тагое „бязтактнасьці“ — выгнаў са службы тутэйшага губэрнатара... А вось у нейкім глухім кутку Случчыны, ў мястэчку Крошыне, каталіцкі ксёндз (Магнушэўскі), гарачы паклоньнік новых ідэй, адчыняе школу для сялянскіх дзяцей, каб іх вучыць усяго таго, чаго дагэтуль маглі вучыцца адно толькі дзеці паноў. І з зразумелым абурэньнем гавора аб ім князь Радзівілл з Нясьвіжа, што гэны ксёндз „спрасьцеў“, „змужычэў“ і „бунтуе мужыкоў проці паноў“...

Падобных прыкладаў можна было-б знайсьці шмат больш. Але і пададзеных даволі, каб паказаць, як думкі аб волі і правох чалавека адбіваліся сярод краёвае інтэлігенцыі, хаця па свайму паходжаньню яна належала пераважна да шляхоцкага стану. Яны — побач з цікавасьцяй да беларускае народнае творчасьці, разбуджанай романтызмам, — паслужылі тым імпульсам, які ў выніку сваім даў нам першыя спробы літэратурнае творчасьці ў беларускай мове.

Але прыналежнасьць да шляхоцкага стану першых беларускіх пісьменьнікаў, пачынаючы ад Баршчэўскага і канчаючы Марцінкевічам, была прычынай таго, што іх ідэалёгія аказалася не даволі шырокай, каб рух беларускі, па скольку аб ім можна гаварыць ужо ў тыя часы, стаўся запраўдным народным рухам. Гэты перыяд адзначаецца тым, што **актыўнымі** астаюцца толькі **шляхоцкія вярхі**, якія на свой розум і хочуць (мо на‘т шчыра!) „ашчасьлівіць“ сялянства, палепшыць ягоны быт і адносіны да яго з боку паноў. „Новую Праўду“, абвешчаную Вялікай Францускай Рэвалюцыяй, яны хаваюць толькі для сябе, **баючыся падзяліцца ёй з народам**. Яны баяцца „рабункаў мужыкоў“, якія апісывае Баршчэўскі. Іх пужае тон песьні, якую запяяў нялетні, загублены бязьвінна царскаю ўладаю, гадунец школы ксяндза Магнушэўскага, Паўлюк Бахрым („Зайграй, зайграй хлопча малы...“), першы вядомы нам сялянскі паэт з канца 20-тых гадоў мінулага сталецьця. І вось гэтыя шляхоцкія пісьменьнікі **адно думаюць для сябе**, адно прапаведываюць сярод сваей сфэры, а **другое** кажуць і пішуць **для „гміну“**: для апошняга яны маюць толькі словы аб здаваленьні сялянскім станам, аб любві і пашане да „добрых паноў“, якія заўсёды зьяўляюцца справядлівымі, а калі і пакрыўдзяць некага, дык бяз злое волі —

праз інтрыгі эканомаў (Гапон" Марцінкевіча). Так, той самы Марцінкевіч, які ў „Гапоне" ідэалізуе паноў, у 1861 годзе піша ў газ. „Gazeta Polska" нешта такое, што прымушае шырока расчыняць вочы! Бо-ж, пішучы для інтэлігенцыі, ён ужо зусім і ня думае ўкрываць тую Праўду, якую гаварыць народу — баіцца...

Вось тыя прычыны, дзеля якіх беларуская літэратура першае палавіны XIX сталецьця — страшэнна **бедная па сваей ідэалёгіі. Шляхта баіцца актыўнасьці масы**, баіцца гаварыць тое, што магло-бы гэтую актыўнасьць разбудзіць, выклікаць нейкі народны самастойны рух.

Ня менш бедны ідэйна і той „этнаграфізм", якім захопліваецца ў сярэдзіне XIX ст. абмаскоўленая беларуская інтэлігенцыя — пераважна з чыноўніцкае сфэры.

Першым песьняром, які разглядае беларускую сялянскую масу, як сілу, **актыўнасьць якое можна і трэба разбудзіць**, зьяўляецца Сыракомля. Гэты „Вясковы Лірнік", глыбока адчуваючы маскоўскую няволю і бачучы, што бяз учасьця сялянства ў барацьбе за палітычнае вызваленьне спад Расеі нічога паважнага нельга дасягнуць, у сваім адзіным вядомым нам пакуль-што беларускім вершу вітае рэвалюцыйны рух, які пракаціўся на Захадзе Эўропы ў 1848 годзе, — вітае яго затым, што „там на Заходзе... робяць вольных людзей з мужыкоў", ды заклікае беларускіх сялян, каб **разам з шляхтай**, як роўныя з роўнымі, „вялі раду аб роднай зямлі", каб на гэтай радзе вырашылі вызваліць свой край спад расейскае ўлады і разам з панамі „выгналі маскаля".

Сьледам за Сыракомляй ідзе Костусь Каліноўскі. Гэты „Дыктатар Літвы", як яго называлі, ня толькі хоча выкарыстаць беларускую масу, як актыўную сілу дзеля вызваленьня ягонае Бацькаўшчыны — Літвы (ў гістарычных межах) з палітычнае залежнасьці ад Масквы і ад Варшавы, але і падгатаўляе грунт дзеля так-званае „народніцкае" ідэалёгіі, якая ў Беларусі набіраецца нацыянальных рысаў, маючы карані іменна ў паўстанчай ідэалёгіі Каліноўскага. Вось чым можна растлумачыць паварот шляхоцкае інтэлігенцыі да народніцтва, вось якім шляхам гэтая інтэлігенцыя зьліваецца з утаёным недзе ў падпольлі народным вызвольным рухам, мо йшчэ паўсьвядомым, сягаючым да Паўлюка Бахрыма і ягонае творчасьці.

Буджэньне нацыянальнае сьвядомасьці сярод беларусаў „народнікамі" з найвыдатнейшым іх прадстаўніком Мацеем Бурачком (Францішкам Багушэвічам) на чале злучаецца зусім натуральна з імкненьнем іх збудзіць да актыўнасьці сялянскую масу, каб павясьці яе па рэвалюцыйным шляху. На **патрыятызьме** апіраюцца нашы народнікі („Мая хатка" Багушэвіча і інш.), але іх нацыянальны ідэал — дужа вузкі, аднабокі: усё зводзіцца да **культу роднае мовы**, — „каб ня ўмёрлі". Нацыянальнасьць, паводле Бурачка, зьяўляецца як быццам самаабаронай ад поўнага зьнішчэньня народу чужацкай уладай.

Другой адзнакай народніцкага руху, які расцьвіў у Беларусі ў апошнія два дзесяцілецьці XIX веку, зьяўляецца тое, што, апрача палітычнага ідэалу, народнікі на сваім сьцягу напісалі і ідэал сацы-

яльны—**працоўны**, ды гэтак нацыянальны і працоўны ідэалы аказаліся, як далей пабачым, зьвязанымі ўжо неразрыўна. Асабліва яркае выяўленьне знайшло гэта ў творах Бурачка: хто-**ж** ня ведае яго вершу „Ня цурайся...“ — гэтай апотэозы мужыцкага мазаля?!

Вось апошняе слова ў беларускай адраджэнскай ідэалегіі XIX веку. Вось той ідэйны багаж, з якім беларускі адраджэнскі рух перайшоў у нашае сталецьце.

* * *

Пачатак XX сталецьця — гэта **рубеж верхаводзтва шляхоцкае інтэлігенцыі** ў жыцьці беларускага народу. Ужо ад 1861 году — ад скасаваньня прыгону — спадаюць з нашае вёскі адвечныя путы, якія прыковывалі да аднаго мейсца нарастаючыя ў ёй маладыя сілы. У новых варунках — як вольныя людзі — растуць **новыя пакаленьні** сялянства, — пакаленьні, якія йдуць у школу, ідуць у места, разьвіваюць свой інтэлект і свой кругазор, раней абмяжованы вузкім кругам спраў і інтэрэсаў адно толькі свайго куточка. І з гэтых новых пакаленьняў вырасшых на волі людзей выходзяць усё больш і больш чысьленыя народныя інтэлігенты, якім час ад часу ўдаецца пранікнуць і ў гімназію і ў унівэрсытэт, усё яшчэ прадстаўляўшыя школу пераважна для „вышэйшых“ станаў. Краёвая інтэлігенцыя ўзбагачваецца новым сялянскім элемэнтам, які, хоць і расплываецца, ў клясова і нацыянальна чужым інтэлігенцкім моры, аднак пачынае патроху ўплываць і на тую асярэдзіну, якая яго глытае. Палітычны і сацыяльны радыкалізм унівэрсытэцкае моладзі памагае гэтым новым нашым інтэлігентам захаваць сувязь з роднай вёскай, а сьледам за гэтым — як лягічны вывад — ідзе і беларускае нацыянальнае ўсьведамленьне: не дарма-ж у „Забраным Краі“ нацыянальнае пытаньне наагул заўсёды выяўлялася ў вельмі вострай форме.

Гэтак у пачатку XX сталецьця — у першых-жа беларускіх палітычных арганізацыях (Беларуская Рэволюцыйная Грамада) — можам адзначыць **чыннае ўчасьце** ўжо ня толькі прадстаўнікоў старое краёвае інтэлігенцыі шляхоцкага паходжаньня, але і **запраўдных сыноў вёскі**, прадстаўнікоў **працоўнае масы**. А ў сувязі з гэтым стары шляхоцкі радыкалізм, які, хоць і апіраўся на сувязі палітычна-нацыянальнае ідэалёгіі з ідэалам працоўным, але ня меў яшчэ выразнага аблічча,— пад уплывам новага духа пачынае прымаць зусім выразны праграмна кірунак — кірунак **сацыялістычны**.

Адначасна з гэтым **пашыраецца і нацыянальны ідэал**. Добра было беларускім адраджэнцам з спольшчанае ці абмаскоўленае інтэлігенцыі гаварыць **толькі** аб роднай мове: усе свае духовыя патрэбы яны здавалялі з культурнае скарбніцы польскай ці расейскай. Але тыя новыя нацыянальна свядомыя элемэнты, якія выраcталі ў беларускай вёсцы, не маглі абмежавацца адным толькі пытаньнем аб мове: ім уся духовая страва павінна была падавацца так, каб яны адчувалі **сувязь яе з сваім нацыянальным „Я“**, каб яна была пранікнута роднай ідэалёгіяй, абапертай на духовых асаблівасьцях беларускае масы. Ім патрэбна

было сваё ўласнае **нацыянальнае культурнае будаўніцтва**— ў усіх галінах культуры.

Урэшце, першая чверць XX сталецьця—гэта пэрыад нарастаньня імкненьня да **палітычнае самастойнасьці** беларускага народу. Ад дамаганьня звычайнага мясцовага самаўрадаваньня, палітычны ідэал беларускіх адраджэнцаў за гэтыя 25 гадоў праходзе праз фазы аўтанамізму, фэдэралізму і—ўрэшце—дзяржаўнае незалежнасьці. І апошняя—хоць і не на ўсім прасторы Беларусі — рэалізуецца на нашых вачах.

Усе гэтыя праявы ў беларускім адраджэнскім руху аказаліся магчымымі толькі ў сувязі з тым, што рух не абмежаваўся аднэй толькі вёскай, а здалеў **вытварыць сваю кузьню ў месьце.** Стуль—праз прэсу, праз кніжку, праз інтэлігенцкія і работніцкія арганізацыі беларуская адраджэнская ідэалёгія пашыралася па ўсенькім краю і глыбока пранікала ў народную душу. А як яна прымалася народам, як пераламывалася ў народнай псыхіцы, аб гэтым нам найболш можа расказаць наша адраджэнская літэратура, твораная запраўднымі сынамі нашае працоўнае масы.

Лішне многа меў наш народ высказаць — выплакаць з сваей душы. Мо‘ затым і расцьвіла так багата перадусім беларуская адраджэнская літэратура, пакінуўшая далёка ззаду за сабой усе іншыя галіны нацыянальнае творчасьці?!...

Агартаючы адным паглядам усю нашу дарэвалюцыйную літэратурную творчасьць XX ст. і бяручы толькі найбольш тыповых песьняроў, мы можам адзначыць тры галоўныя напрамкі ў ёй: чыста **сялянскі** з найвыдатнейшым сваім прадстаўніком у асобе Якуба Коласа, — кірунак найбольш багаты (што зусім натуральна) па ліку песьняроў і твораў; слабенькі напачатку **работніцкі**, які выяўляў сьпярша бадай ці не адзіны толькі Цішка Гартны; ўрэшце, калі можна так яго назваць, кірунак **сялянска работніцкі**, кірунак **агульна-беларускі**, які даў сынтэз адраджэнскага руху на агульна - людзкіх падставах, і найвыдатнейшым прадстаўніком якога зьяўляецца Янка Купала.

Але гэтую літэратуру да Вялікае Рэвалюцыі 1917 году мы можам назваць яшчэ літэратурай **павадырскай**: тварцы яе, хоць і бясспрэчныя сыны працоўнага народу, аднак-жа зьяўляюцца як-быццам толькі **цьветам** гэтага народу, толькі **выбранцамі-пракрокамі** нацыянальнага Адраджэньня. Ад рэвалюцыі наша літэратура стаеццца больш **„нізавой“**, больш **масавай**: запраўды-ж праз яе гавора сама маса.

Бо ўжо вырасла зусім новае пакаленьне сьвядомых беларусаў, якія розьняцца ад пачынальнікаў і прарокаў Адраджэньня тым, што не праходзілі доўгае і труднае дарогі павольнага росту, эвалюцыі і дасьпяваньня беларускае нацыянальнае ідэі. Яны прыйшлі ўжо якбыццам **на гатовае.** Іх усьведамленьне — гэта **ўяўленьне** чыста рэвалюцыйным шляхам таго, да чаго доўгімі гадамі працы і барацьбы даходзілі старэйшыя адраджэнцы. А нязвычайна яркі абраз гэтага уяўленьня ідэі Адраджэньня дае наша наймаладзейшая літэратура ў творы Уладзімера Жылкі над назовам „Уяўленьне“.

У нашых наймалодшых няма ўжо **выключна** сялянскіх, ці **выключна** работніцкіх паэтаў. Ім роўна блізкія і вёска і места. Ці выхаджэнцы з вёскі на мястовым бруку, ці сыны места — яны выяўляюць сынтэз ідэалёгіі ўсяго беларускага **працоўнага** народу.

Бо-ж ня толькі вёска, але і места, яшчэ ўчора служыўшае рассаднікам чужацкае культуры, стаецца **іхнім**. Тое, аб чым толькі йшчэ лятуціць Жылка адносна да Вільні („Вершы аб Вільні“), там — на Усходзе — заваёвана: **места там — беларускае.** І з гордасьцяй пераможцы-заваявальніка Чарот абвяшчае сьвету, што ўжо і па бруку гораду рухае горда „лазою падплецены лапаць“, а малады песьняр Александровіч снуе цэлы цыкль сваіх вершаў на бруку места — ў зборніку „Па беларускім бруку“. І многа іх гэткіх — „маладнякоўцаў“.

Гэтыя новыя нашыя песьняры — гэта ўжо не барацьбіты адно толькі за **магчымасьць** тварыць сваё жыцьцё сваімі рукамі: яны самі прадстаўляюць гэтае жыцьцё, беспасрэдна твораць яго, **яны — народ.** Яны локцямі і кулакамі здабываюць сабе належнае мейсца на роднай зямлі („Босыя на вогнішчы“ Міхася Чарота). Яны зьдзейсьняюць нашы сны-лятуценьні аб тым, каб беларус быў гаспадаром у сябе дома.

Вось псыхалёгія масы, перамогшае ў барацьбе за вызваленьне. Маса ўрэшце — сама сабе пан.

Гэтым настроем захопліваюцца і нашы старэйшыя паэты. І колькі шчырасьці і глыбокае веры ў сваю моц чуецца ў словах Янкі Купалы, калі ён кліча:

...О так! Я — пралетар!
Яшчэ учора раб пакутны —
Сягоньня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!..

**Вера ў сябе** — і **толькі** ў сябе! — вось тая цудоўная краска, якая на нашых вачах расцьвіла на грунце ўсё ажыўляючае і жывячае **волі**. Вера гэтая праходзе міма старое веры ў сілу і справядлівасьць Бога, – і вось той самы Купала, які йшчэ так нядаўна маліцьвенна зварачаўся да „Цара неба і зямлі“, цяпер кажа:

...ў народ і край свой толькі веру
і веру ў самаго сябе!

Вось апошняе і мо‘ найбольш яркае слова **сучаснае** нам беларускае адраджэнскае ідэалёгіі. Вось апошні вынік перажытага нашым народам за апошнія 25 гадоў.

Вільня, люты, 1926. **Ант. Навіна.**

Ю. Плеханаў.

# Дыялектыка і лёгіка.

(гл. № 5 — 1925 г.).

Пойдзем-жа далей. Я сказаў, што рух ёсьць супярэчнасьць у руху і што даеля гэтага да яго ня могуць быць тасаваны „аснаўныя законы“ фармальнай лёгікі. Але каб гэтае цьверджаньне не дало поваду да непаразуменьняў, трэба добра сьпярша высьветліць усю справу.

Калі мы стаім перад пытаньнем аб пераходзе аднаго характару руху ў другі — іншы, напрыклад — мэханічнага руху ў цяплыню, нам таксама прыходзіцца меркаваць згодна з аснаўным законам Ібэрвэга. Гэты характар руху ёсьць—або цяплыня, або мэханічны рух, або які іншы. Гэта — ясна. Але, калі гэта так, дык аснаўныя законы фармальнай лёгікі ў пэўных межах могуць быць тасаваны таксама і да руху. А адсюль яшчэ раз выходзіць, што дыялектыка не касуе фармальнай лёгікі, але толькі пазбаўляе яе законы абсалютнага значаньня, якое надаюць ім мэтафізыкі. Калі чытач уважна ўдумаўся ў тое, што сказана вышэй, дык ён зразумее, як мала вартасьці мае тая часта паўтараная думка, быццам дыялектыка ня можа быць пагоджана з матэрыялізмам. Якраз наадварот. У аснове нашай дыялектыкі ляжыць матэрыялістычнае разуменьне прыроды. Яна на гэтым разуменьні толькі і трымаецца: яна-б заваліласяя, каліб-б заваліўся самы матэрыялізм. І наадварот: без дыялектыкі — няпоўнай, аднабокай, скажам больш, зусім немагчымай была-б матэрыялістычная тэорыя пазнаньня.

У Гэгэля дыялектыка зыходзіцца з мэтафізыкай. У нас дыялектыка апіраецца на навуку аб прыродзе. У Гэгэля дэміургам (арганізатарам) запраўднасьці (ўжываючы гэты выраз Маркса) зьяўляецца „абсалютная ідэя“. Для нас абсалютная ідэя ёсьць толькі абстракцыя руху, якім выклікаюцца ўсе злучэньні і становішчы матэрыі.

У Гэгэля мышленьне (думка) рушыцца ўпярод саматугам — у выніку выяўленьня і разьвязаньня супярэчнасьцяў, закладзеных у паняцьцях. Згодна з нашай--матэрыялістычнай--навукай, супярэчнасьці, закладзеныя ў паняцьцях, зьяўляюцца толькі адбіткамі, перакладамі на мову думкі — тых супярэчнасьцяў, якія істнуюць у зьявішчах, дзякуючы іх супярэчнай прыродзе—адносна да іх агульнай супольнай асновы — руху.

У Гэгэля ход (разьвіцьцё) рэчаў ці зьявішчаў вызначаецца ходам ідэі; у нас ход ідэяў паясьняецца ходам рэчаў — разьвіцьцё думкі — разьвіцьцё жыцьця. Матэрыялізм „ставіць дыялектыку на ногі“ і тым самым скідае з яе тое містычнае пакрывала, якім яна закрыта ў Гэгэля. Але ў гэтым самым зьяўляецца рэвалюцыйны характэр дыялектыкі.

„У сваей містыфікаванай форме, — кажа Маркс, — дыялектыка зрабілася нямецкай модай дзеля таго, што яна, здавалася, апраўдала істнуючы парадак рэчаў.

Але ў яе рацыянальным відзе яна ненавісна буржуазіі і яе тэорытычным павадырам таму, што ў пазытыўнае разуменьне істнуючага ладу яна ўводзіць таксама і разуменьне яго супярэчнасьці, яго запярэчаньня, дык — яго нямінучага заняпаду. Гэта таму, што яна разглядае кожную створаную форму ў працэсе руху, ці адначасна і з яе зьмянлівага боку. Таму, што яна ні перад чым ня схіляецца, будучы крытычнаю і рэвалюцыйнаю па самой сваей сутнасьці". (глядзі „Прадмову" да 2-га нямецкага выданьня 1-га тому „Капіталу").

Што матэрыялістычная дыялектыка ненавісна буржуазіі, прасякнутай духам рэакцыі, гэта — ў парадку рэчаў. Але што ад яе адварочываюцца іншы раз навет людзі, якія шчыра спагадаюць рэвалюцыйнаму сацыялізму, гэта — вельмі сьмешна і надзвычайна сумна: гэта Гэркулесавы стаўпы недарэчнасьці.

Цяпер трэба зьвярнуць увагу яшчэ вось на што.

Мы ўже ведаем, што меў слушнасьць—і наскольки—Ібэрвэг, калі ён трэбаваў ад тых людзей, якія лягічна мысьлюць, пэўных адказаў на пэўныя пытаньні — пра прыналежнасьць пэўнай рэчы, пэўнай асаблівасьці, ці азнакі.

Але трэба далей уявіць, ці мы маем справу з простай рэчай, ці са зложанай, якая аб'еднывае ў сабе проста-процілежныя зьявішчы і дзяля таго злучае ў сабе проста-процілежныя свойствы. Дык ці можна прылажыць да суду пра такія рэчы правіла Ібэрвэга. — Не. І сам Ібэрвэг, гэткі рашучы вораг Гэгелеўскае дыялектыкі, як і Трэндэленбург, лічыць, што тут трэба судзіць згодна з іншым правілам,— дый якраз — з правілам злучэньня процілежнасьцяў.

Але вялікая большасьць тых зьявішч, якімі займаецца прыродазнаўства і сацыяльныя навукі, належыць да складу рэчаў якраз такого характару: ў найпрасьцейшай клетачцы пратаплязмы, як і ў жыцьці неразьвітага грамадзянства, злучаюцца ў нэшта аб'еднанае проста-процілежныя зьявішчы.

Дык вось у прыродазнаустве, як і ў сацыяльных навуках, трэба даць шырокі прастор дыялектычнаму мэтаду. І ад таго часу, як яму дадзена такое мейсца ў азначаных навуках, яны зрабілі запраўды калясальныя пасьпехі.

Ці жадаеце, чытачу, даведаціся, як заваявала дыялектыка свае правы ў біалёгіі? Перагледзіце спрэчкі аб тым, што такое ёсьць від, выкліканыя паяўленьнем тэорыі трансфармізму (паходжаньня, ці зьменнасьці відаў расьліннага, ці жывотнага царства). Дарвін і яго прыхільнікі трымаліся тэй думкі, што рожныя віды аднаго роду жывёлы, ці расьліны ёсьць нічым іншым, як патомкамі, якія ў розных напрамках разьвіліся з аднэй і тэй самай пачаткавай формы. Апроч таго, згодна з навукай аб разьвіцьці, усе роды (гатункі), аднаго і таго-ж парадку таксама паходзяць ад аднэй супольнай формы. Тое-ж самае трэба сказаць і пра ўсе парадкі аднае і тэй-жа клясы.

Паводле процілежнаго погляду ворагаў Дарвіна — ўсе віды жывёлы і расьліны зусім незалежны адны ад адных, а ад супольнай

формы паходзяць толькі індывіды (асобы), належучыя да аднаго і таго-ж віду.

Гэткае-ж паняцьце аб відзе выказываў ужо Лімнней, кажучы: „відау істнуе столькі, сколькі іх спачатку стварыла Вышейшая Істота“. Гэта — чыста мэтафізычны пагляд, таму што мэтафізык разглядае рэчы і паняцьці, як „асобныя, нязьменныя, закасьцянелыя, раз наўсягды пэуныя рэчы, незалежныя ад дасьледу разьвіцьця, ці ўплыву адных на адных“. (Энгэльс). А дыялектыка разглядае рэчы і паняцьці, кажучы славамі таго-ж Энгельса, — „у іх узаемным зьвязку, у іх злучэньні, у іх руху, у іх стварэньні і зьніштажэньні“. І гэты пагляд увайшоў у біалёгію ад часоў Дарвіна і назаўсёды астаўся там, якія-б папраўкі ня ўносіла ў тэорыю трансфармізму далейшае разьвіцьцё навукі.

Каб зразумець важнае значэньне дыялектыкі ў сацыялёгіі, даволі высьветліць, якім шляхом сацыялізм з утопіі ператварыуся ў навуку. Сацыялісты-утапісты стаялі на абстрактным грунце пагляду (нязьменнай) „людзкай прыроды“, і судзілі аб сацыяльных зьявішчах паводле формулы: „так-так і не-не“.

Уласнасьць (прыватная) — або адпавядае „людзкай прыродзе“, або не адпавядае ёй: моногамічная сямья або адпавядае, або не адпавядае гэтай „прыродзе” — і так далей і далей.

Дык вось, калі людзкая прырода згары лічылася нязьменнай, сацыялісты мелі права спадзявацца, што паміж многалічнымі магчымымі сыстэмамі сацыяльнага ладу ёсьць такая, якая адпавядае азначанай прыродзе больш, як усе іншыя. Адсюль і змаганьні — найсьці гэтую найлепшую — бо-ж быццам найбольш адпавядаючую людзкай прыродзе — сыстэму.

Кожны закладчык школы думаў, што ён знайшоў гэткую сыстэму, кожны з іх і прапанаваў сваю ўтопію.

Маркс унес у сацыялізм дыялектычны мэтад і тым зрабіў яго навукай і тым нанёс вялікае паражэньне ўтапізму. У Маркса ўжо няма пазываньня да людзкай прыроды; ён ня ведае такіх грамадзкіх установаў, якія — або адпавядаюць, або не адпавядаюць гэтай „прыродзе“. Ужо ў „убогасьці філязофіі“ мы спатыкаем гэткі характэрны закід Прудону: „П. Прудон ня ведае таго, што ўся гісторыя людзкасьці ёсьць ня больш, як паступовая зьмена людзкай прыроды“.

У „Капітале“ Маркс кажа, што чалавек, уплываючы на вонкавы сьвет, і зьмяняючы яго, зьмяняе тым самым і сваю ўласнаю прыроду. Гэта—дыялектычны пункт гледжаньня, які кідае зусім новае сьвятло на пытаньні сацыяльнага жыцьця. Возьмем хаця-б пытаньне прыватнай уласнасьці. Утапісты ў большасьці пісалі і спрачаліся між сабой і з эканамістамі — што да таго, ці мусіць яна істнаваць, або — ці адпавядае яна людзкай прыродзе. Маркс паставіў і гэта пытаньне на канкрэтны грунт. Паводле яго тэорыі — формы ўласнасьці і ўласьніцкіх адносінаў азначаюцца разьвіцьцём прадукцыйных сілаў. Аднэй ступені разьвіцьця гэтых сілаў адпавядае адна форма, іншай—іншая.

Але абсалютнага выразшэньня пытаньня тут быць ня можа,—таму што ўсё цячэ, усё зьмяняецца: „мудрасьць робіцца бязглуздзем, асалода— мукай“.

Гэгэль кажа: „супярэчнасьць вядзе ўпярод“, і гэтаму яго дыялектычнаму пагляду навука знаходзіць бліскучае пацьверджаньне ў барацьбе клясаў; забываючы пра яе, ня можна нічога зразумець у разьвіцьці сацыяльнага і духовага жыцьця грамадзянства, падзелянага на клясы.

Але чаму „лёгіка супярэчнасьці“, якая ўяўляе ў сабе, як мы бачылі, адбіцьцё ў людзкім розуме вечнага працэсу руху, завецца дыялектыкай.

Каб ня ўваходзіць у даўгія мяркаваньні з гэтага поваду, даю слова Куно Фішэру (вядомы нямецкі гісторык філязофіі).

„Людзкае жыцьцё можна параўнаваць з дыялёгам (размовай) у тым сэнсе, што з узростам і жыцьцёвым дасьледам нашыя пагляды на людзей і рэчы паступова ператвараюцца, як меркаваньні асобаў, якія размаўляюць—у працягу пладатворнай і багагай ідэямі размовы. У гэтым нявольным і нямінучым ператварэньні нашых паглядаў на жыцьцё і сьвет і зьмяшчаецца дасьлед. Дык дзеля таго і Гэгэль раўнуючы ход разьвіцьця сьведамасьці з ходам філязофічнай размовы, называе яго словам—дыялектыка, ці—дыялектычны рух. Гэты выраз ужываўся ўжо Плятонам, Арыстотэлем і Кантам, як важны, маючы ў кожнага з іх рожнае значэньне, тэрмін. Але ні ў воднай сыстэме ён не атрымаў такога шырокага значэньня, як у Гэгэля“.

# Душа Народу, як падстава нацыянальнае культуры.

Эпоха пачынаецца ад тае хвіліны, калі які небудзь культурны лад, які дагэтуль належаў да вынятковых, пачынае шукаць сабе мейсца, распаўсюджываецца і, надаючы тон, становіцца на чале ў грамадзянстве.

Пытаньне, які тып культуры стаіць на чале, ёсьць дужа важным мамэнтам. Вымагае яно згоднага высілку душ, сьведамых у сваім гістарычным ды нацыянальным характары. Да выпрацаваньня гэтага, стоючага на чале грамадзянства тыпу, павінны прыступаць людзі інтэлігентныя.

Яны павінны зрабіць уплыў на бег жыцьця, даючы яму пэўны кірунак.

Сярод агульна прызнаных мусяць яны выпрацовываць той тып, які ўважаюць за дадатні. Пасьпех іх працы будзе залежаць ад ступені сарганізаваньня Душы Народу. Чым больш будзе сарганізавана Душа Народу, тым сільней будзе яна праціўстаўляцца сьвету, як сіла

самавольная. Тады творыць яна падставы народнага быту — г. ё. здольнасьць утварэньня адасобненага і самастойнага Духа агулу.

Дзеля таго, што Душа Народу мае свой рэальны быт у адзінках, дык і сіла яе і ступень сарганізаваньня залежаць ад ступені духовага разьвіцьця кожнай паасобнай адзінкі, залежаць ад яе культуры і цывілізацыі.

Праз культуру мы азначаем унутраную вартасьць адзінкі, ступень разьвіцьця яе духа. Цывілізацыя-ж—гэта ўсе зьявішчы, створаныя чалавекам. Могуць яны быць таксама ў межах Духа, але будуць яны ўяўненымі, праз што робяцца агульнай уласнасьцяй.

Культура ўнутраная, духовая — гэта нешта тайнае, а разам з тым сільнае, гэта ёсьць вытвар толькі Духа. Ня будучы ніколі чужой, накінутай звонку, — мае яна здольнасьць ствараць зьмены ў цывілізацыі і надаваць ахварбоўку ды кірунак імкненьням агулу адзінак — Народу.

Цывілізацыя-ж, ці гэта матар'яльная, ці грамадзкая можа быць чым-небудзь мо' і цэнным, але часта накінутым звонку, не заўсёды ёсьць яна вытварам Духа таго Народу, які з яе карыстае.

Да найважнейшых абавязкаў адзінак, вытвараючых тып, належыць здаць сабе справу з тыпу собскае культуры. Тып культуры дадзенага Народу можна вызначыць у параўнаньні з цывілізацыей, але толькі тады, калі будуць устаноўлены адносіны паміж культураю і цывілі-зацыей. Адзінай сталай, рэальнай падставай творчасьці зьяўляецца заўсёды душа. Дык і імкнуцца мы павінны да таго, каб разпазнаць адносіны паміж душой адзінкі, у залежнасьці ад ступені яе культуры з аднаго боку, а цывілізацыей і яе заданьнямі — з другога.

Распазнаваньне гэта дапамагае нам арыентавацца ўва ўнутранай будове грамадзянства і прычыняецца да палёгкі і ў далейшай працы.

Каб дакладна вызначыць гэтыя адносіны трэба ўглыбіцца ў некаторыя Душы і пазнаць іх.

Ведаючы ўжо гэтыя Душы, лягчэй будзе вызначыць магчымасьць цывілізацыі і творчую здольнасьць грамадзянства.

І наадварот: пазнаючы выказаныя ўжо вынікі нацыянальнае цывілізацыі — можна азначыць ступень духовае культуры.

Для вызначэньня напрамку разьвіцьця і яго сілы маем два пункты, а апрача гэтага ўвагу для выхаваўцы. Напрамак гэты мы можам зьмяніць на лепшы: або праз дзеяньне на вынікі благое культуры, — якая пакажацца ў дрэнна пакіраванай цывілізацыі, або дзеючы беспасярэдна на крыніцу іх, г. ё. на самую Душу. Такі спосаб выхаваньня будзе заўсёды мець перавагу над грамадзкай дзеяльнасьцяй.

---

Цяпер мы перажываем часы ператварэньняў, хаця мо' яшчэ не ўва ўсёй іх поўні. Час гэты вымагае ўдачнага прыстасаваньня да новых варункаў і зьяўляецца ён да пэўнай меры небяспечным, бо вымагае ад нас безперарыўнай уважнасьці. Хопіць толькі занядбаць

працу над сабой, зьняць з сябе на хвіліну адказнасьць за разьвіцьцё адносін, спадзяючыся, што ўсё само сабой уложыцца, як над сытуацыей запануе хто іншы.

Калі навет дагэтуль ня было навокал нас ворагаў, то такі стан нашае Душы можа гэтых ворагаў стварыць, бо тады да багацьцяў нашае цывілізацыі адчынена дарога чужынцам.

На арганізм неўмацаваны, слабы звычайна кідаюцца пасажыты і чужынец коштам гэтага арганізму набіраецца моцы — за ім ціснуцца ворагі палітычныя, якія імкнуцца да экспансыі. Тады ўсякі чужацкі элемэнт, які навет не вядзе ўласнае палітыкі, становіцца аружжам, усьцяж больш сьвядомым, чужой захопніцкай палітыкі.

Пасажыты могуць дзеяць толькі звонку, нарушаючы цывілізацыю, але калі чужацкі элемэнт, карыстаючы з хвіліны нашае бяздзейнасьці, дасягне сваім уплывам больш унутраных асноў цывілізацыі, дасягне мазгавых цэнтраў і там пачнеператвараць тып культуры, то тады могуць наступіць 2 зьявішчы: або, калі грамадзкая культура блага ўгрунтавана, Душа паддаецца раскладу — і тады нацыянальная цывілізацыя бурыцца; або, калі Душа яшчэ здаровая—наступае рэакцыя і маем яркі абраз, які так часта спатыкаецца: стоючыя ў варожых пазыцыях два розныя тыпы культуры.

Ня гледзячы на тое, які будзе ўплыў чужацкіх элемэнтаў на нацыянальную культуру і цывілізацыю, ужо сам факт, што гэты ўплыў ёсьць, уносіць у цэнтральную духовую будову ненармальнасьць, якая адбіваецца ў нашай дзейнасьці выразным адыходам ад таго напрамку, які ў імкненьнях народу быў-бы дадатнім.

Уплыў чужацкіх элемэнтаў будзе тым больш небяспечным, чым большыя захопніцкія інстынкты мае гэта чужая цывілізацыя. Будзе яна мець сабе за мэту расклад чужой культуры, накідаючы сваю мову, рэлігію і палітычныя імкненьні. Найбольш пацерпяць пры гэтым адзінкі не ўгрунтаваныя ў роднай культуры — а дзеля таго, што кожная чужацкая цывілізацыя мае ў сабе тое, што кожную душу, якая апынулася ў сфэры яе дзеяльнасьці, прыцягівае да сябе, дык гэтыя слабыя адзінкі будуць змушаны ўрэшце прыстасавацца да тыпу гэтае чужацкае культуры.

Адсюль вынікае, што сілай Народу павінна зрабіцца актыўнасьць яго душы. Адзінка прызвычаеная да бяздзейнага, пассыўнага ладу духовага жыцьця ня мае моцы ў разе патрэбы, каб з гэтае ніжшасьці вырвацца.

Цывілізацыя Народу гэтулькі мае вынослівасьці і моцы, колькі дасьць ёй Душа. Калі цывілізацыя мае слабую апору ў душах, дзякуючы недаразьвіцьцю іх, або раздваеньню—тады найдаражэйшы яе скарб — самастойны быт палітычны будзе зьліквідаваны іншымі цывілізацыямі, бяз глыбейшай навет у гэтых душах рэакцыі. І ня дойдзе гэты Народ да самастойнасьці, пакуль ня вытварыць у сабе, шляхам адпаведнае працы, адзінае Душы на справу супольнае нацыянальнае цывілізацыі.

Шлях.

# З-за куліс беларуска-польскага гуртка у Віленскім Унівэрсытэце.

Гісторык-дасьледчык думкі грамадзкае ў сучаснай Польшчы, пішучы аб ідэалёгічных ахварбоўках польскага грамадзянства за час 1919—1925 г. дарэмна будзе шукаць ясных ідэалёгічных праграмаў і шчырае палітычнае дзейнасьці польскіх дэмакратычных партыяў сярод грамадзян Незалежнае Рэчыпаспалітае за гэны пэрыяд часу.

Дэмакратыі, як суцэльнае групы, палітычнае партыі, якая-б клала сваё адбіцьцё на ўкладзе жыцьця дзержавы, у Польшчы няма.

Дзе-не-дзе блукаюцца паасобныя людзі, каторыя жывуць успамінам сваей даўнай дзейнасьці, лятуцячы аб ей, як старая дзева аб даўно мінуўшым флірце і каханьні...

Яшчэ жывуць шчырыя польскія дэмакраты, што даўно, праўда, але былі правадырамі народу, ці ягонае лепшае часткі; на-жаль гэтыя могікане дзеля старасьці аселі на ласкавым хлебе сваіх хлебадаўцаў і яны цяпер жывуць успамінамі адно...

Другія-ж захварэлі на модную пошасьць „інтэрэсу народовага“, ці велікадзержаўнасьці, зачынілі вочы на жыцьце сучаснае, жывое, а толькі што дня чытаюць перад ядой і пасьля яды канстытуцыю 17 сакавіка і заяўляюць усім-ўсім, што вось якія мы — дзяржава — демакраты, вось наша Magna Charta Libertatum.

І тая невялікая частка лягічна разважаючых палякаў, што думае сацыяльнымі катэгорыямі і мае ў крыві antidotum процiў агульнапольскае пошасьці pseudo „interesu narodowego“, раскінутая на ўсім абшары Польшчы, саўсім загубілася, стала нявідзімай.

Гэтак сярод старэйшага грамадзянства польскага, ўзросшага пад час пад'ему дэмакратычных ідэяў і іх ужыцяўленьня.

Болей яркі, пазбаўляны н'ат тых „дзявочых“ лятуценьняў абраз, прэдстаўляе малодшае пакаленьне, ўзгадаванае ў атмасфэры сваей дзержаўнасьці, ці н'ат падзеяў вялікае вайны.

Моладзь — гэта сынтэз усяго найлепшага ў народзе, яго гордасьць, надзея і апора. Асабліва тая частка, якой дазволіў лёс здабываць веду ў вышэйшых школах — студэнства.

Ужо у № 1—4 Думкі быў пададзены нарыс ідэалёгіі віленскага польскага студэнства.

Цяпер мы хочам затрымацца на спробе дагаварыцца, знайсьці супольны шлях, спробе, якая мела мейсца ў леташнім годзе, паміж нібы дэмакратычным напрамкам краевага польскага студэнства і беларускай студэнскай моладзю.

Думка аб гэтым зьявілася даўно. На гэта ахвотна нібы йшлі паасобныя палякі студэнты, зьвязаныя з Заходняй Беларусяй.

Да рэалізацыі гэнае думкі прыступілі ў леташнім школьным годзе, калі адбылося спатканьне студэнтаў беларусаў і палякаў.

Спатканьне мела мэты інфармацыйныя, выясьніць пагляд польскай моладзі на нас, яе ідэалёгію і мэты плянавага польска-беларускага студэнскага гуртка. Беларусы мелі высказацца на гэныя самыя пытаньні.

Сабраўшыяся студэнты-палякі фармальна гаварылі ад імя Арганізацыі Моладзі Народовай (О. М. Н.), хаця, як выявілася, прадстаўлялі розныя напрамкі ідэолёгічныя, ці лепш сказаць — розна высказываліся на закранутыя пры спатканьні тэмы.

Меньш больш абгаварывалі: 1) Мэты гуртка, 3) Асадніцтва, 3) Адносіны да жыдоў, 4) Сацыяльнае абліччa гуртка, 5) Урадовая палітыка адносна да беларусаў Заходняй Беларусі. 6) Наша палітычная ідэалёгія.

Мэтай гуртка, паводле студэнтаў-палякоў мела быць праца прапагандова-інформацыйная сярод тае часткі польскага грамадзянства, якая не належыць да абозу эндэцыі, але на беларускае пытаньне заглядаецца паводле інфармацыяў прэссы эндэцкай, ці саўсім у ім не арыентуецца. Гурток меу-бы магчымасьць уплываць на ўсьведамленьне гэных людзей у гэтым напрамку, а мог-бы гэта рабіць, бо ўжо гэта гаварылі-б не адны беларусы, а польска беларуская арганізацыя, да якой мела-б веру і спагаданьне польскае грамадзянства.

Пытаньне аб асадніцтве, дыскутаванае на спатканьні, ніякага вырашэньня не дачакалася.

Прысутныя палякі мелі на яго не аднолькавы пагляд, некаторыя з іх былі асаднікамі самі і аб'ектыўна гаварыць не маглі. Адзін з прысутных палякоў, паляшук стаў на пункт гледжаньня наш, але большасьць гэткаму вырашэньню была праціўна. Відаць было, што ўжо гэнае пытаньне можа разьбіць праектаванае зблiжэньне.

У пытаньнях сацыяльнага парадку йзноў ня было каардынацыі, дзеля таго, што студэнты палякі аднолькавага пагляду не выяўлялі але-ж прынцыповых расходжаньняў ня было, і гэнае пытаньне прызнанае было і намі, як такое, якое на лёс польска-беларускага гуртка вялікага ўплыву мець ня можа.

На пытаньне ўрадовай палітыкі да нас і наагул да насельнікаў Заходняе Беларусі палякі высказываліся для нас прыемлема і, калі гэта было шчыра, расходжаньняў дзеля гэтага быць не магло. Гурток меў адразу заняць пазыцыю аўтаномную для Заходняе Беларусі. Наша палітычная ідэалёгія незалежнасьці прынцыповай, як ідэалу, знайшла зразуменьне ў студэнтаў палякаў, з пэўнымі засьцярогамі, выкліканымі сучасным палітычным укладам.

Рэзумуючы, трэба сказаць, што першая спроба згаварыцца з польскімі студэнтамі, узятымі як паасобныя людзі, давала надзею, што, пры добрай волі і шчырасьці з аднаго і другога боку, магла выкрасталізавацца ў нешта рэальнае і стацца карысной для абедзьвух старон, зьвязаных паходжаньнем і абставінамі жыцьця.

На другім спатканьні абгавораныя мэты і спробы іх дасяганьня мелі выразіцца ў двух рэфэратах з польскага і нашага боку, на падставе якіх меўся ўкладацца статут арганізацыі.

Мы шчыра віталі самую ідэю збліжэньня, калі гэнае ня мела ніякіх мэтаў дзеля шырокае польскае палітыкі.

Паміж першым і праектаваным другім спатканьнем выходзіў № 2 „Студэнскае Думкі" і меўся адбыцца баль-канцэрт Беларускага Студэнства ў Вільні. У гэны час быў ў Вільні Юга-Славянскі студэнскі хор Обіліч.

№ 2 „Думкі" нам сканфіскавалі, дазволу на вечарыну не далі.

Вось гэта быў першы рэальны вынік праектаванага збліжэньня студэнства беларускага і польскага ў Вільні.

На гэтым думка аб беларуска-польскім гуртку спынілася і замёрла. Тыя самыя адносіны да нас наагул, якія знайшлі прысуд на сходцы быўшых там студэнтаў палякаў, зламалі і разбілі яе.

Мы перасталі верыць у шчырасьць слоў, якія чулі, бо ў абарону нас, калі цярпелі маральна і матэрыяльна, ад сваіх калегаў палякаў голасу не пачулі.

Што-ж далей? Ці сапраўды ня будзе магчымасьці бяз злосьці і шчыра зразумець адных другімі?

Мы верым, што самае жыцьце паставіць на парадак дня справу збліжэньня паміж беларусамі і польскай дэмакрацыяй наагул і студэнствам паасобку.

Толькі цяпер гэная дэмакратыя польская маўчыць, ці яе, як групы, няма.

Асабліва-ж сярод студэнства польскага ў Вільні. І тыя адзінкі, лічаныя на пальцах амаль, чуюцца горш за нас, ім стыдна, але рабіць нічога ня змогуць.

Цяпер, паўтараем, аб збліжэньні мовы быць ня можа, бо няма студэнскае польскае арганізацыі, з каторай магчыма было-б гаварыць нам.

Тое-ж, што ёсьць, добра характэрызуе абразок са сходкі студэнскіх землячэстваў, адбытай 31.I 1926 г. і з дыскусыі, якую падаем паводле польскае прэсы.

Сходка была склікана польскім студэнствам, паходзячым з Заходняй Беларусі і Украіны. На сходцы была ўнесена прапазыцыя выбраць у Галоўны Студэнскі Камітэт у Варшаве рэфэрэнта, (арганізацыя палітычная, пад уплывамі эндэцкімі), які-б „заняўся справай пашырэньня **польскае культуры** сярод людаасьці крэсовае, культуральна нібы стоячае ніжэй, як сярод Беларусаў, Жыдоў і Літоўцаў, і што гэта мае зьяўляцца сьвятым абавязкам кожнага „добрага" паляка. Проціў гэтага выступіў грам. М, Здановіч (студэнт з Усходняе Галіцыі. Рэд.), каторы падчыркнуў, што **Беларусы, Жыды і Літоўцы маюць нічым незапярэчанае права разьвіваць сваю собскую культуру** і адмоўляць ім права да культурнага жыцьця ніхто з Палякаў ня сьмее. Спытаў адначасна, ці гэнае пляновае „пашырэньне" культуры польскае на ўсходніх „крэсах" не зьяўляецца паўтарэньнем практыкі „Kulturträger'oў" нямецкіх у знаёмым клічу „Drang nach Osten".

На гэта падняўся гр. Пятрусэвіч (Мінчук. Рэд.), каторы ў вострых

словах, выяўляючых сільнае здэнэрваваньне, закрычаў, што „Крэсы былі ад вякоў польскімі, такімі ёсьць і будуць". Другі студент Плевака стараўся ў блутаным довадзе даказаць, што ёсьць вялікая розніца паміж брутальным хамскім нажіданьнем сваей культуры палякам ў Пазнані немцамі, а праектаваным моладзю студэнскаю (ведама—палякамі. Рэд,) пашырэньнем культуры польскае на крэсах". Гр. Здановіч у кароткіх словах выясьніў Пятрусэвічу, што ён цалком разыходзіцца з праўдай гістарычнай, радзячы яму прачытаць падручнік гісторыі, з якога даведаецца, што **крэсы ад вякоў польскімі ня былі,** — Плевацы-ж, што ня відзіць ніякае розніцы паміж яго „патрыятычнымі замерамі а „Kulturkampf'ам" нямецкім, бо гэта толькі розныя назовы, сэнс-жа той самы. Тады адазваліся галосныя крыкі „проч", „выкінуць яго", „бальшавік", „камуніст" і г. п.

Гэныя крыкі па адрасу гр. Здановіча сьведчаць найлепш аб маральным і культурным ураўні тых, якія маюць „пашыраць культуру".

Гэта праяў вельмі сумны..

У вызваленай Польшчы студэнская моладзь, якая, як кожная моладзь, павінна выдзеляцца ідэалізмам і каханьнем справядлівасьці, забыўшыя аб муках, цераз якія праходзіла ў працягу амаль ня 150 гадоў сама Польшч, гэтая моладзь польская выступае з праектам новае гакаты на крэсах, цынічна прыкрываючыся „інтэрэсам паньствовым".

Трэба адзначыць, што падобныя рэчы дзеяліся на сходзе правінцыяльных зямлячэств, сябры якіх пераважна паходзяць з жыхароў паўночна-ўсходніх ваяводзтваў і прозьвішчы якіх выяўляюць паходжаньне з гэных самых Беларусаў і Літоўцаў, якім адбіраецца права да сваей народнасьці і культуры. — Урэшце дзівіцца ня трэба, бо заусёды рэнэгаты адзначаліся найбольшай энэргіяй ў дэнацыяналізацыі сваіх землякоў і братоў" *).

Дык аказываецца, што інфармацыйна-прапагандавыя мэты праектаванае польска-беларускае студэнскае арганізацыі пры сучасным настроі польскага грамадзянства праведзены быць ня могуць. Бо калі польская студэнская моладзь на самы ўспамін аб беларусох, мае адну толькі лаянку і эпітэт: „большавік", „камуніст", дык што-ж гаварыць аб старэйшым пакаленьні польскага грамадзянства.

„Яны нічога не навучыліся", нажаль „усяго забыліся". Псыхалёгія гэтага грамадзянства нн выяўляе рацыянальна прадуманае думкі, а ўзята ў палон біоінстынктоўнымі, падсьвядомымі перажыткамі даўнага шляхоцтва з яго найгоршымі рысамі.

Заносчывы атавізм даўнае шляхотчыны і клерыкальна-шавіністычныя клічы дробнага мяшчанства, узятага ў разуменьні ідэалёгічным, палоняць польскае грамадзянства.

Супольнага языка з імі ў нас няма.—

Усё-ж верым, што жыцьцё змусіць лепшых палякаў устраснуцца і шукаць супольных з намі шляхаў і спосабаў зьбліжэньня.

---

*) Kurjer Wilenski № 26 ад дн. 2.II 1926 г.

# Лебядзінае возера.

— „Тут былі калісьці лясы цёмныя,
Цёмныя былі яны, высокія,
Возера ляжала тут ня малае,
Возера ляжала лебядзінае.
У возеры тым жыў сам лебядзіны цар,
Жыў ён, цар, з лябёдачкамі белымі,
Жыў ён, цар, з малымі лебядзёнкамі.
Эх, было лябёдкам тут раздольліца,
Згодна яны жылі, ціха мірненька,
У возеры, адны яны купаліся,
Крыльлейкамі ў хвалях паласкаліся,
Ды прышоў канец іх жыцьцю вольнаму,
Ды прышоў канец... Ужо ня вернецца.
Людзі неяк раз ў бары заблуталісь,
Людзі неяк раз там лебядзеў знайшлі.
Ціха яны к возеру спускаліся,
Стрэлы павыцягвалі калёныя,
Лукі панацягвалі кляновыя,
Білі яны стрэламі сівых лебядзёў,
Білі іх у пёркі, ў грудзі белыя,
Цэліліся ў голавы іх буйныя,
Усіх забілі жоначак-лябёдачак,
Усіх забілі лебядзёў маленячкіх,
Цэліліся людзі ў самага цара,
У гэтага ў цара ў лебядзінага...

І казаў тады ім лебядзіны цар:
— „Гэй вы, людзі, людцы неразумныя,
Лукі вы навошта панацягвалі,
Стрэлы вы навошта слалі ў возера,
Усіх забілі дзетак маіх дробненькіх,
Ім, лябёдкам белым, узялі жыцьцё?
Будзьце-ж вы навекі, людцы, прокляты,
Прокляты за сэрцайка каменнае.
Шчасьця вам ня знаці супакойнага,
Птушак як пабачыце — успомніце:
Будзе вам хацецца іх губіці, біць,
Будзе вам хацецца як яны лятаць.
А і хто яшчэ на гэтым возеры
Лебядзя заб‘е ці так, ці зумыслу,
Лебядзя заб‘е ці каленай стралой,
Ці так скруціць шыю яму белую,
Хто заб‘е — той сам памрэ ў возеры:
Ня губі, злы, жыцьця лебядзінага“!

Так сказаўшы выплыў цар сярэдзінай,

Выплыў, паабтрос ён пёркі белыя,
Узмахнуў крыламі лебядзінымі,
Пахаваўся ў чыстым, сінім возеры.
Выйдзе ён, як людзюхны зьвядуцца ўсе,
Выйдзе ён з пад возера глыбокага,
Узмахне крыламі бела-белымі,
Прызаве жанок сваіх, лябёдачак
Са дзяцьмі малымі, з лебядзёнкамі.
Будуць над людзямі яны суд судзіць,
Суд судзіць над імі і адказ прасіць“...

Так казала Алёнка-балотніца
Да князёвых ласкаў ахвотніца,
За руку яго трымаючы,
З рукі стрэльбу вынімаючы.
Апускаўся князь, усьміхаючыся,
Па траве-мурагу раскідаючыся.
Мо‘ паверыўшы казцы, мо‘ так, бо любіў —
Але белу лябёдку ён, князь, не забіў...
Эх, ня ветрык яліначку ў полі ламаў —
Князь Алёнку туліў да сябе, абнімаў,
Не хмялінка ля кіёчка завівалася, —
Алёнка да любага князя схілялася,
А ўжо сонейка ў небе нізка было,
За горы гарыстыя спаці ішло.

* * *

— А і хочацца Данілцы спаці,
Цяжка з лаўкі дубовае ўстаці,
А і хочацца і ня хочацца,
Думкі рэчкаю быстрай коцяцца.
Як паехаў князь на тым тыдні ў лес,
За ласём ішоў, у гушчар улез,
Ад зары скакаў між густых сасон,
Ад капытаў гул нёсся ў даль, як стогн,
А і ехаў князь, ды пакрыківаў,
Сваіх верных слугаў пакліківаў,
А за ім у сьлед разам шлі псары
З ім, Данілаю маладым, ўгары.
На Данілцы быў дарагі каптан,
Паяс шоўкавы жамчугом заткан.
Шапка новая, сабаліная,
На ёй пёрка сакалінае,
З пад яе кудры падалі русыя,
Бровы хмарыліся нешта густыя,
Угляляліся ў даль вочы сьмелыя,
Як дзьве зоркі высокія, белыя.

Ня віхор ляціць і асінкі гнець,
Лятучы праз лес на бярозкі дзьмець —
Гэтак скача Даніла праз старыя пні,
А і скача ён на сваім кані.
Усё цямнее лес... гусьцей рад сасон...
З вараным канём на паляне ён.
Ня чуваць сабак, ня крычаць псары,
Толькі лес ды лес, хмарак дым ўгары,
Па бакох кусты маладой альхі,
А за імі хвой ды бяроз вярхі.
        Стаў Даніла, аглядаецца,
        У сьляды свае ўзіраецца.
Конь пад ім дрыжыць і капытам б‘е,
У халодны цень, пад кусты заве.
Пад кустамі сьцежачка ў‘ецца,
Па тэй сьцежачцы Даніла ймкнецца.
Аб суччо бяроз абарваў паяс,
Сходзіць сонейка, ужо ня раньні час.
А Даніла ўсё скача па сьцежачцы,
        Усё скача, аглядаецца,
        У сьляды свае ўзіраецца.

Толькі што гэта за возера ляжыць,
Што за сіняе і прыгожае блішчыць?
    Берагі ў яго зялёныя,
    Асакаю наўкруг абнясёныя,
    Спавітыя чаротам-гаротнікам,
    Да нярадасных казкаў ахвотнікам.
    Пасярэдзіне лебядзі плаваюць,
    Ваду крыльлямі б‘юць лебядзінымі,
    За сьнягі крышчэнскія бялейшымі,
    За росы купальскія чысьцейшымі...
Даніла да возера на кані пад‘яжджае,
Як на той бок праехаць — шукае.
    Бачыць кола праз дрэваў тканіны,
    Бачыць чорную грэблю ля млына,
    Пена густа з пад грэблі нясецца,
    Далей хата... дым стужкаю ўецца...
        Стаў Даніла аглядаецца,
        У ваду, у млын узіраецца.

Ня дрыжыць зямля, калі гром грыміць,
Не гарыць зара, калі сонца сьпіць,
        А дрыжыць душа маладзецкая,
        А іграець кроў удалецкая:
    Ля самой вады, дзе з тугі-нуды
    Асака стаіць і глядзіць туды,
    Дзе на цёмным дне вадзянік ляжыць,
    На сырым пяску, ўвесь у ціне, сьпіць,

Ля самой вады... сядзіць князь, а з ім
Млынара дачка... праз лісьцё асін
Зіхаціць паяс, што як жар гарыць,
Відаць новую сукню князёвую,
Відаць шапку яго атлясовую
Ды з аздобаю сабалёваю,
Відаць князевы боты казловыя,
Чуваць князевы словы вясёлыя.

Не хмялінка ля кіёчка завіваецца,
Не чароцінка над возерам схіляецца,
То дачка млынара ўсьміхаецца,
Да князёвых грудзёў пахіляецца.
За пагожы дзянёк прыгажэйшая,
За сонейка ў небе мілейшая.
З пад павекаў дзявочых гарaць, бліщчаць
Яе вочкі — дзьве зоркі зялёныя,
У вушах даўгія сергі вісяць,
Косы цёмныя роўна завітыя,
Баравой травой перавітыя,
Цела лесам і сонцам успоена
Да вады, як чароцінка клоніцца,
А як клоніцца — чуць ня ломіцца.

У густым лесе альховы куст стаіць,
За той куст Даніла хаваецца,
У грэблю праз суччо ўзіраецца,
На дачку млынара заглядаецца.
Любіць князя Алёнка-балотніца,
Да яго пацалункаў ахвотніца.
Чэша кудры яго ручкай белаю,
У яго вочы ўзіраецца сьмелыя...
Не шчабеча за хвойнікам ластаўка,
Не пяець на кусточку малінаўка, —
Так сьмяецца Алёнка, гаворачы,
На траве з князям побач седзячы...

Як скацілась за лес сонца краснае,
Як устаў белы месяц заплаканы,
Толькі ў той час яны разьвіталіся,
У вапошні раз цалаваліся.
Сонца, сонейка, сонца краснае,
Чаму рана схавалася?
Як жа мне не хавацїся,
Час да дому варачаціся,
Старым людцам трэ' супакой даць,
Маладым людзям — да зары гуляць.

* * *

А і хочацца Данілцы спаці,
Цяжка з лаўкі дубовае ўстаці,
А і хочацца і ня хочацца,
Думкі рэчкаю быстрай коцяцца.
Успамінае Даніла і лес густы,
Успамінае і возера лебядзінае,
Млын і грэблю за гнуткай вярбінаю,
Успамінае Алёнку-балотніцу,
Да князёвых ласкаў ахвотніцу,
Успамінае яе вочы зялёныя,
Блескам месяца ўночы ўспаёныя..,
Ня дрыжыць зямля, калі гром грыміць,
Не гарыць зара, калі сонца сьпіць,
Гарыць сэрца маладзецкае,
Кроў гуляець удалецкая,
Разгараецца ў сэрцы каханьніца
Як пасьля начы разьвітаньніца:
Палюбілася Данілцы млынара дачка
Маладзенькая Алёначка.

Праз тры дні ізноў князь паехаў у лес,
Зьбіўся з сьцежачкі, ў гушчар улез,
Паміж хвой скакаў, на псароў крычаў.
Варана каня панукаў і гнаў...
Толькі пёркі — раі пчаліныя,
Па над шапкай віліcь сабалінаю.
Зноў за ім псары ў здагон нясьліcь,
Крыкі з лаям сабакаў князёвых зьліліcь,
Зноў Даніла адстаў, прызадумаўся,
На Алёнку, пэўне, уздумаўся.
Вынес конь яго аж на возера,
На ціхае возера лебядзінае,
Дзе шэпчуцца іва з вярбінаю,
Дзе лілейкі ў сіняй вадзе цьвітуць,
Дзе белыя лебядзі па вадзе снуюць.
Не калінка да сонейка цягнецца,
Ня зорачка месячык выглядае, —
Алёнка на грэблі князя чакае,
З белых лілейкаў вяночак сплятае,
Шэпча — варожыць, яго заклікае:

„Ужо кладзецца раса на альховы кусты,
Ужо сонца за хвойкі хаваецца,
Ужо начная мгла распаўзаецца,
А яго, сакалочка, няма як няма...
Сакалочак мой ясны, прыгожанькі,

Як бяз сонейка зоркам не сьвяціці,
Так і мне без цябе не пражыці.
Хмаркі ў небе агнём запаляюцца,
Жоўты месячык з ночкай вітаецца,
Разгараецца ў сэрцы каханьніца,
Як пасьля начы рассьвітаньніца.
Любы, любы, прыгожанькі,
Сакалочак,
Глядзіцца месяц двурожанькі
У наш куточак.
Прыдзі, прыдзі, мой месячык,
Пакланюся,
Да сэрца твайго, дубочак мой,
Прытулюся.
Табе я дам, табе я дам
Вяночак,
На шчырае вітаньніца, на вечнае каханьніца,
Сакалочак".

Так Алёнка на грэблі ўсё князя чакае,
З белых лілейкаў вяночак сплятае,
Шэпча — варожыць, яго заклікае...
Гулкі грукат капытаў з-за грэблі ляціць,
Відаць князеву сукню атлясовую,
Відаць шапачку яго шаўковую
Ды з апаскаю пярловаю,
Відаць пёркі на шапцы сакаліныя,
Відаць варана каня за вярбінаю...
Ярчэй зорачкі над зямлёй гараць,
Сьвятлей месячык сьвеціць зорачкам, —
Сходзіць князь з каня, да дзяўчыны йдзе,
Да грудзей туліць, абнімаючы...
А Алёнка залівaецца,
Шэрай птушачкай залятаецца,
Як каліначка хістаецца,
З любым князям вітаецца.
Добра, сонейка, што схавалася,
За лясы, за тры высокія,
За палі, за тры шырокія:
Старым людцам трэ' супакой даць,
Маладым людцам — да зары гулять.

* * *

Не заўсёды сонейку ў небе сьвяціці,
Не заўсёды людзям на зямлі любіці.
Пагуляў князь з Алёнкай-балотніцай,
Да яго пацалункаў ахвотніцай,
Пагуляў з маладзенькай, пацешыўся,

Дзе шапочуцца іва з вярбінаю,
Дзе лілейкі белыя ў вадзе цьвітуць,
Дзе лебядзі белыя па вадзе плывуць.
Месяц блізка ўсё езьдзіў, а там пазабыў,
У іншым мейсцы мо' сэрца сваё весяліў.

**Натальля Арсеньнева.**

(Працяг будзе).

# Песьня.

Хоць нуды ў табе шмат, вылівана сьлязьмі
Дума-песьня няхітра складана,
Але нашая ты: недруг, спробуй вазьмі!...
Ты ня можаш быць, песьня, схаванаю...

———

Ня чурайцесь роднай песьні
У шчасьці і ў жальбе...

*Я. Купала.*

Песьня...

Скуль узялася?...

Скуль узялася, такая простая, манатонная, такая бедная славамі і разам такая яркая, такая многа-гаворачая, так вабячая сваёй прастатой і глыбінёю, як ціхі вір пад вольхамі, дзе пастушок грае яе на жалейцы?...

Такая зразумелая і неўразуметая...

Хто падрываў свае сэрца, творачы яе?...

Як не загінула яна?...

Як захавалася ў доўгія годы паняверкі, ўціску, часам асьмеяная, часам забытая...

Песьня...

Яна нарадзілася ў вёсцы...

У беларускай вёсцы...

У доўгія гадзіны за кудзеляю пры сьвеці лучыны сьпявалі яе дзяўчаты...

Ідучы ў вечары да дому, абыймалі жніцы жальбою—песьняй усё поле, забывалі за ёю долю сваю паганую і клікалі долю лепшую — песьняй...

Араты пакідаў падганяць валоў, слухаючы, як пастушкі раніцаю сьпяваюць яе і як разам з жаўрукамі ўздымаецца яна і губляецца ў сінім небе...

Зьвінела яна і ў карчомцы пры дарозе, разам з медзякамі кінутымі на заліты гарэлкаю стол, і падцінала ёй вясковая скрыпка...

Мела сваё пачэснае мейсца на дажынках і дасейках, на хрысьцінах і вясельлі і ўсюды...

Усюды, дзе трэба было забыцца, пацешыць сябе, скінуць хоць на часіну нуду-тугу з плеч...

Песьня...

Але часы зьмяніліся...

Зьмянілі дзядоў сыны, зьмянілі сыноў унукі, сьпяць ўжо і ўнукі пад зялёнаю хваіною на магілках, не адно ўжо пакаленьне прайшло...

І песьня... памалу... сьціхала.

Памалу пачала вёска чурацца свае „мужыцкае“ песьні, прынясла з[мeста], з панскага двара, з казармы, чужацкую...

Голасную, але часта не маючую для вёскі сэнсу, часта проста незразумелую, чужую душы народу, песьню...

Выкінутая вірам сусьветных падзеяў з свае ціхае вёскі ў шырокі сьвет, распыленая ў асымілюючай гушчы расейскага народу,—для яе, для гэтае чужой песьні, пачала моладзь забываць сваю...

І ўжо гаварылі: — загінула песьня!...

Але яна не загінула, бо ня можа загінуць тое, што тварылася мукаю, бядою...

Што нарадзілася з болям і спавівалася горам народным...

Бо песьня гіне толькі тады, як гіне ўвесь народ.

І яна захавалася.

Захавалася ў змучаных грудзёх бацькоў, у збалеўшай, сьлязьмі палітай і церняй паросшай душы матак...

Матак, пахаваўшых сваіх дзяцей, аддаўшых сваіх сыноў у ахвяру сусьветнаму Молоху...

Захавалася...

Бо берагла яе душа народная, душа вёскі...

Берагла разам з тугою па Бацькаўшчыне з надзеяй на лепшае жыцьцё, разам з вераю ў будучыню...

І расьцьвіла яна йзноў на палітай адвечнымі сьлязьмі і потам, на палітай сьвежай крывёй роднай зямлі і не забудзецца ніколі...

Не забудзецца, пакуль б‘ецца жывое сэрца народнае, пакуль жывы будзе дух вёскі нашай, пакуль жыць будзе наш народ!...

Не забудуць яе і тые, што дачакаюць лепшай долі, захаваюць яе, песяню-жальбу, песьню-надзею, песьню-сум і тугу, песьню-пацеху, песьню-сьлёзы...

Захаваюць, як сьведку многапакутнай долі мінулых пакаленьняў, як прызыў да змаганьня за долю лепшую...

Долю чалавечую... Долю вольную...

Песьня...

**А. Мацейчык.**

Кулі 4. X. 1925

# ЦІ ДОЎГА?

Калі я ўбачу, што ўсюды няпраўда
Пануе на сьвеце і ўсюды прыгон,
Яшчэ калі ўспомню, як помню аддаўна,
Што ўсюды грыміць толькі золата звон —
Тады мне маніцца, што ўсё прадаецца
І хочацца верыць, што гэтак здаецца
Маім асьляплёным і слабым вачом
Прад новага дня сьветазарным сьвятлом.

Калі я ўбачу, што людцы іныя,
Забыўшы ідэі і мысьлі сьвятыя,
Пакуль былі слабы аб праўдзе пялі,
Цяпер тую праўду за грошы прадалі
І песьню з такім жа запалам іную
Сьпеваюць, каб цемру пашырыць начную, —
Тады мне апошняе ўжо астаецца:
Хацець толькі верыць, што гэтак здаецца.

Калі я ўбачу сябе даакола
Карысьці заклятай замкнёнае кола,
Што кожнае сьвята і кожнай нядзелі
Людзі з малітваю кленчаць ў касьцелі,
А прыйдуць да хаты—бясправе тварыць
І роднага брата гатовы-б прадаць, —
Тады астаецца адно запытацца:
Ці доўга яшчэ так нам будзе здавацца?

**Ус. Шыран.**

* * *

*Ахвярую Гэ-І.*

Вы грайце, гусьлі, зьвініце,
сьпевы!
Хутчэй! Званчэй!
Любоў хай згіне, мяне пакіне,—
Сыйдзе з вачэй!
Ужо досьць каханьня, па „ёй“
ўздыханьня,—
Трэ‘ вольным быць!
Любоў схаваці, нуду прагнаці
„Яе“ забыць!
Хоць сьлёзы льюцца, хоць грудзі
рвуцца,—
Пяі, сьпявай!

Любоў схаваўшы, нуду
прагнаўшы,—
Й жыцьцё хавай!
Сьлязьмі, каханьнем, нудой,
уздыханьнем
Ня вернеш ўзноў
Дзён долі сьветлай, любві
прыветнай,
Былых часоў!
Дык грайце, гусьлі, зьвінце,
сьпевы!
Хутчэй! Званчэй!
Любоў хай згіне, мяне пакіне,—
Сыйдзе з вачэй!

**Пятрусь.**

22. VI. 1922 г. Люцын.

# З народнай творчасьці.

## Вясьняна.

Юрава маці ўпроч пашла,
Залатыя ключы панясла.
Юрева маці вярніся —
Залатыя ключы нашліся.

Адамкні зямліцу,
Выпусьці расіцу
На зялёну травіцу,
На здраёву вадзіцу.

Запісаў А. Мацейчык, в. Рудаўляны, Горадзенск. пав.

## Падскокі.

(Прыпеўкі)

1. А ў гародзі на мяжы
Тры куcьцікі мяты,
А хто дзеўку пацалуе—
Той будзе багаты.

2. А ў гародзі на мяжы
Тры кусьцікі руты,
А хто хлапца пацалуе—
Нет горшай атруты.

3. Дзяўчынанька, чыя ты,
Ці ня пойдзеш гуляці?
Ты ня пытай, чыя я —
Як пойдзеш ты, пайду й я!

4. Гоп, гоп, гопа-чына,
А ты хлопец, я дзяўчына,
А ты хлопец для работы,
Я дзяўчына — для ахвоты!

5. А мне той не да душы,
Што ў сьвіці і ў кажусі,
А мне той спадабаўся,
Што на гузік зашпіляўся!

Запісаў А. Мацейчык, в. Рудаўляны, Горадзенск. пав.

* * *

Чамуж ты каліна, чамуж ты
чырвона,
Жоўтым цьветам ня цьвіла,
Як мяне матуля, як мяне родная
На чужыну аддала.
Чужая-чужына, вяліка дружына,
Самі селі вячэраць —
Мяне маладзеньку дзяўчыну
слаўненьку,
Па вадзіцу паслалі.

Прынясла вадзіцу з халоднай
крыніцы
Ды ўсім за стол падала,
А ніхто ня кажа, ніхто не
гаворыць,
Каб падышла да стала.
Сонейка прыгрэе, ветрайка завее
Ды расіца ападзе, —
Так наша каханьне — першае
спазнаньне,
Яно марне прападзе.

Запісаў А. Мацейчык, в. Рудаўляны, Горадзенск. пав.

**25-га сакавіка 1926 г. прыпадаюць 8-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.**

---

# ХРОНІКА.

— **Склад Ураду Беларускага Студэнскага Саюзу ў 1925 — 26 годзе.** 22. XI. 25 г. на агульным сходзе Б. С. С. быў выбраны новы ўрад Б, С. С. ў наступным складзе: Старшыня — кал. І. Гагалінскі, віцэ-старшыня — кал. Я. Жук, сэкрэтар — к-ка. М. Шавель, скарбнік — кал. Я. Ермаковіч і ‘сябра ўраду — к-ка М. Касатая; кандыдаты — кал. Шыран і Амельяновіч. У рэвізыйную камісію выбраны кал. А. Зянюк, кал. Б. Грабінскі і кал. М. Марцінчык; кандыдат — к-ка В. Уласевічанка. Апякуном Б. С. С. зьяўляецца праф. Владычка.

— **Бібліятэка Б. С. С.** Бібліятэка Б. С. С. з кожным днём папаўняецца новымі кнігамі і адчынена што серады і суботы ад 4—6 гадз.

— **Публічныя лекцыі Б. С. С.** Адна з традыцыйна-галоўных дзейнасьцяў Б. С. С. — ладжаньне публічных лекцыяў — вядзецца і ў гэтым годзе ня менш дбала, чым у мінулыя гады. Сёлета былі прачытаны гэтакія і ў наступным парадку публічныя лекцыі:

24. І. 26. грам. А. Луцкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „Эвалюцыя беларускай адраджэнскай ідэалёгіі і адбіцьцё яе ў літэратуры“. 21. ІІ. 26. кс. А. Станкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „Палякі, як чужаземцы на землях Вял. Княэьства Літоўскага ў XV і XVI в. ў параўнаньні з сучасным іх палажэньнем на гэтых-жа землях“. 7. III. 26. грам. А. Трэпка прачытаў лекцыю на тэму: „Машына ў жыцьці чалавека“. Прыймаючы пад увагу цяжкі матэр‘яльны стан беларускага грамадзянства, ўваход на лекцыі быў бязплатны; — на лекцыях выявілася, што зацікаўленьне падобнымі лекцыямі з боку беларускага грамадзянства вялікае. Апошняе зьявішча пераконвае нас, што думка, паданая у „Бел. Ніве“, аб патрэбе беларускага народнага ўнівэрсытэту — зусім слушная і выклікана самым жыцьцём, і сапраўды неяк дзіўна, што ў Вільні няма навет прыватных курсаў беларусазнаўства, тым балей, што ўстановы, якія маюць права гэтым заняцца — істнуюць.

— **Рэфэраты ў Б. С. С.** Апрача публічных лекцыяў Б.С.С. ладзіць лекцыі ў выключна сваім кружку з мэтаю самаразьвіцьця. Першую гэтакую лекцыю прачытаў 6. XII. 25 г. кал. М. Марцінчык на тэму: „Дзьве душы“,—другую прачытаў 17. І. 26 г. кал. А. Зянюк на тэму: „Крызыс парлямантарызму“.

— **Беларускі рэфэрат у Пазнанскім Унівэрсытэце.** 4 сакавіка г. г. б. сябра Б. С. С. студэнт Пазнанскага ўнівэрсытэту Станіслаў Грынкевіч прачытаў у гуртку студэнтаў-украінцаў у Пазнанскім унівэрсытэце рэфэрат на тэму: „Беларускае Студэнства“.

— **Галіна сцэнічнай дзейнасьці Б. С. С.** 6. II. 1926 г. адбылася вечарына-спэктакаль, дзе студэнты згулялі п‘есу Фр. Аляхновіча „Шчасьлівы муж“. Гулялі—аб‘ектыўна кажучы—зусім добра. Народу было—на рэдкасьць шмат. Трэба адзначыць, што наагул на беларускія спэктаклі публіка — пераважна моладзь — йдзе вельмі ахвотна; відаць адчувае голад на беларускае прадстаўленьне, а гэтага голаду—на жаль—няма дзе задаволіць. Патрэба беларускага тэатру, ці лепей беларускага народнага дому, адчуваецца з кожным днём. Апошні спэктакль паказаў, што артыстычна-тэхнічных сіл у нас хопіць; — трэба матэр‘яльнай дапамогі, трэба ініцыятывы. Гэта неабходная патрэба, гэта мы мусім сарганізаваць.

— **Бюро працы пры Беларускім Студ. Саюзе.** Пры Б.С.С. стварылася бюро працы, якое адчынена ад 4 — 6 гадз. што серады і суботы.

— **Патрэбы публічнай беларускай бібліятэкі.** Кожны дзень прыносіць запытаньні, дзе можна дастаць—пазычыць тую ці іншую беларускую кніжку. Ясна, што гэта можна задаволіць толькі тады, калі адчынім у Вільні публічную беларуску бібліятэку. Зварочваемся з запытаньнем да тых ад каго гэта залежыць матэрыяльна і праўна — ці не пара аб гэтым падумаць? Тэхнічных і інтэлектуальных сіл хопіць.

— **Суд над беларускім кс. Гадлеўскім.** 1. III. 26 г. адбыўся суд над беларускім кс. Гадлеўскім, які вельмі энэргічна працаваў над нацыянальным усьведамленьнем беларусаў-каталікаў у сваёй парахвіі. Абвінавачывалі яго па § 129 і па § 130 К. К. Засудзілі кс. Гадлеўскага на 2 гады крэпасьці. Кс. Гадлеўскі падаў апэляцыю; да апэляцыі звольнілі яго пад залог 2.000 злотых.

— **Прэсавыя беларускія працэсы.** 18. IX. 25 г. адбыўся суд над рэдактарам „Сял. Праўды“ гр. А. Войцікам. Засудзілі яго на 1 год вастрогу. Грам. А. Войцік падаў апэляцыю.

10. X, 25 г, адбыўся суд над беларускім рэдактарам М. Шылам. Засудзілі яго на 1 месяц вастрогу, ці 100 зл. грош. кары.

18. XI 25 г. адбыўся другі суд над грам. М. Шылам. Засудзілі яго на 1 год катаргі.

30. III. 26 г. адбудзецца апэляцыйны суд над ім. Да апэляцыі Шыла сядзіць у вастрозе.

30. XI. 25 г. разглядалася ў акружным судзе справа рэдактара „Кгупісу“ гр. Б. Туронка. Б. сябра Б. С. С. Туронка засудзілі на два месяцы вастрогу, а „Кгупісы“ закрылі.

— **10-ыя ўгодкі адчыненьня беларускае школы.** 14 лістапада 1925 г. беларускае грамадзянства ў Вільні сьвяткавала 10-ыя ўгодкі першае беларускае школы.

— **Першы беларускі адрыўны каляндар.** На гэты 1926 год быў выданы першы беларускі адрыўны каляндар. Першае выданьне было сканфіскована,—каляндар вышаў у другім выданьні. Пажадана, каб і наступныя гады не засталіся без адрыўных календароў.

— **З Віленскай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі.** У віл. праваслаўнай духоўнай сэмінарыі істнуе гурток сэмінарыстаў-беларусаў, які працуе, арганізуючы рэфэраты і спэктаклі. Пажадайма яму карыснай і памыснай працы! Беларускіх духоўнікоў чакае беларускі народ, забыты выракшыміся яго „пастырамі“.

**З жыцьця Віл. Беларускай гімназіі.** Вучні Віл. Бел. Гім. сарганізованы ў Вучнёўскі гурток пры гімназіі. Гурток мае сваю бібліятэку і каапэратыў, апрача таго вядзе працу культурна-асьветную, арганізуючы саматугам рэфэраты і вечарыны. На жаль, ніхто з вучыцялёў да гэтай пары ня ўзяўся, каб паважней павясьці асьветную працу сярод вучняў у напрамку самаразьвіцьця і паглыбленьня веды вучняў. Верым, што з часам і гэта зробіцца.

**Беларускі каапэратыўны банк.** У Вільні раней, а ў Глыбокім цяпер, як філія, адчыніўся Беларускі Каап. Банк. Трэба павітаць і пажадаць карыснага і памыснага разьвіцьця гэтай эканамічнай арганізацыі, якая павінна падняць дабрабыт беларускага грамадзянства, а гэтым можа дасьць магчымаць разьвіцьця тым беларускім арганізацыям, якія заняпалі дзякуючы трудным матэр'яльным варункам.

**Падзяка.** Урад Беларускага Студэнскага Саюзу выражае шчырую падзяку Беларускай Школьнай Радзе за аказаную яму дапамогу.

Рэдакцыя Студэнскае Думкі шчыра дзякуе гр. А. Мацейчыку за прысланыя матэр'ялы з народнай творчасьці.

# З Радавай Беларусі.

— **Выдавецкая праца ў Радавай Беларусі.** Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі выпушчаны з друку гэткія кнігі:

**Янка Купала.** Збор твораў, т. I. **Якуб Колас.** Сымон Музыка. Поэма. **Цішка Гартны.** Урачыстасьць. Вершы. **Траяноўскі.** Курс прыродознаўства, ч. I. **Дубоўка.** Трысьцё. Вершы. **Маладняк.** № 8 часопісь. **А. Бараноўскі** Змаганьне з пажарамі. **А. Лазоўскі.** Аснаўныя моманты ў разьвіцьці міжнароднага руху. **М. Чарот.** Босыя на вогнішчы. **С. Былінскі.** Гутарка пра жаночыя хваробы. **М. Томскі.** Прафэсыянальныя саюзы на новых шляхох. **М. Томскі.** Прафэсыянальны рух у Расеі. **Ал. Зайцаў.** Важныя пастановы партыі аб сялянскай гаспадарцы і **I. Цьвікевіч.** Як усьцерагчыся ад сыфілісу.

Аб тым, у якім ліку і тэмпе выдаюцца там падручнікі для школ сьведчыць адзін дробны факт, што апошняе выданьне Географіі Беларусі Смоліча вышло ў 60.000 экзэмпляраў.

З Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам зроблена ўмова на дастаўку школьных падручнікаў: для школ у межах Радавай Беларусі на 270.000 руб. і за межамі яе ў тых частках, якія ўваходзіць у склад С. С. С. Р., — на 100.000 руб.

Пэдагагічны Факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту у Менску выпусьціў сёлета 110 дыплёмаваных пэдагогаў.

Рэдактар Выдавец: **Адольф Зянюк.**